**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 3 (771) 15 студзеня 2015 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае







## Свята прыходзіць да ўсіх!

**Святочныя мерапрыемствы на гэтым тыдні праходзяць у гарадскім Доме культуры. Падрыхтаваныя яны нядзельнай школай пры Глыбоцкім саборы Ражаства Прасвятой Багародзіцы. У сваёй пастаноўцы дзеці і дарослыя вучылі быць добрымі, любіцьБога і бліжняга, берагчы мір на зямлі і ў сваіх сэрцах.**

## Віцебская вобласць

# Новы зігзаг кар'еры

■ Станіслаў Раманчук.

**Як і чакалася, у ходзе маштабных перастановак кадраў страціў сваю пасаду і 55-гадовы глава Віцебскай вобласці Аляксандр Косінец.**

Праўда, у адрозненне ад іншых сваіх больш пажылых калег, ён атрымаў новае прызначэнне і ўзначаліў прэзідэнцкую Адміністрацыю. На свaёй пасадзе ў Прыдзвінні энергічны доктар медыцынскіх навук адпрацаваў крыху больш шасці гадоў і даволі рана яшчэ ў 37 гадоў стаў прафесарам хірургіі, а потым працаваў рэктарам медуніверсітэта, потым віцэ-прэм'ерам урада. Падчас сваёй працы ў вобласці запомніўся фенаменальнай памяццю і здольнасцямі яркага прамоўцы, а вось падначаленым ставіў напружаныя і часта проста нерэальныя задачы, любіў агучваць павышаныя абавязацельствы, каб рэгіён займаў лідзіруючыя пазіцыі ў Беларусі. Незадоўга перад адстаўкай А. Косінец зрабіў справаздачу аблвыканкама аб развіцці Віцебшчыны летась і параўнаў з подзвігам, зробленае за 5 апошніх гадоў працаўнікамі АПК. Аднак на ўзроўні ўрада ягоная палітыка ў сельскай гаспадарцы, тая ж праграма "Чыстае поле" востра крытыкаваліся, а фінансавы стан многіх гаспадарак няпросты. Прэзідэнт таксама быў незадаволены правалам планаў мадэрнізацыі "Віцебскдрэва", падыходамі да развіцця АПК, але яго дзелавыя якасці адзначыў і прапанаваў новае назначэнне. Дарэчы, магчыма, былы глава вобласці збіраўся вярнуцца ў сталіцу, бо ён не адмовіўся ад зямельнага ўчастка ў Драздах і пабудаваў для сваёй сям'і прыгожы шыкоўны жылы дом.

## Пастаўскі раён

# Такія розныя ўчынкі

■ Кастусь Александровіч

**У рэальным жыцці адны людзі вядуць нікчэмны лад жыцця, іншыя ж суайчыннікі жывуць і раскрываюцца зусім па-іншаму.**

Вось і ў Пастаўскім раёне напрыканцы года адбыліся два розныя здарэнні. Спачатку ў святочную ноч Божага нараджэння ў мястэчку Дунілавічы адзін з мясцовых жыхароў выращыў дзіўным чынам разабрацца са сваймі крыўдзіцелямі. Як ні дзіўна, у такой ролі апынуліся супрацоўнікі мясцовага сельсавета, якія не пакідалі яго ў спакоі, выклікалі і заклікалі завязаць з частымі выпіўкамі. На падпітку гэты выпівоха разбіў акно на першым паверсе будынка, прынёс з дому саляркі і спрабаваў падпаліць памяшканне. На шчасце, з гэтай задумы мала што атрымалася, а зламысніка пакараюць па ўсёй строгасці закона. А ўжо днём на пад'ездзе да райцэнтра на коўзскай дарозе зляцела ў кювет машына аднаго з урачоў мясцовага пагранічнага шпіталя. На бяду, побач знаходзіўся штучны вадаём, куды на хуткасці звалілася легкавушка і перавярнулася. Ад немінуемай гібелі гэту сям'ю выратаваў таксама жыхар Пастаў, які ехаў следам па аўтадарозе. Мужны гараджанін не раздумваў доўга, ён кінуўся ў ледзяную ваду, нырнуў у салон і дапамог дарослым выбрацца са смяртэльнай пасткі. Таксама пастаўчаніну ўдалося адшпіліць ад спецкрэсла і дастаць шасцімесячнага дзіцця, якое наглыталася вады і толькі цудам не загінула. У той дзень на дапамогу прыбыў і рэанімабіль з абласнога цэнтра, кваліфікаваныя ўрачы пастараліся выратаваць жыццё малога чалавечка. За геразім і мужнасць пры выратаванні людзей вырашана прадставіць гараджаніна да дзяржаўнай узнагароды.

## Полацкі раён

# З крэсла мэра ў віцэ-прэм'еры

■ Чэслаў Якубовіч.

**Яшчэ не было ў навейшай беларускай гісторыі такога выпадка, каб на пасадзе аднаго з намеснікаў прэм'ер-міністра апынулася жанчына.**

Перад тым, як кабінет былога віцэ-прэм'ера па сацыяльных пытаннях А. Тозіка заняла старшыня Наваполацкага гарвыканкама 54-гадовая Наталля Качанава, на нафтагараду на працягу тыдня хадзілі розныя чуткі, што іх мэра некуды забяруць і перавядуць кіраваць нават вобласцю. Такія размовы ўзнікалі і раней, але розныя варыянты далейшай кар'еры Качанавай не спраўджваліся. На гэты раз абаяльная і энергічная жанчына, сапраўды, пакінула сваю пасаду і пераехала працаваць у Мінск. Дарэчы, усё ранейшае жыццё Наталлі Іванаўны звязана з родным краем, ды і нарадзілася яна ў самым старажытным горадзе краіны ў простай рабочай сям'і. Там яна актыўна займалася спортам, марыла стаць выхавацелькай дзіцячага сада. А так атрымалася, што пасля заканчэння тагачаснага Наваполацкага політэхнічнага інстытута стала інжынерам і працяглы час працавала на прадпрыемстве "Вадаканал". У далейшым яе лёс прывёў у службу ЖКГ Полацка, яна стала ў горадзе курыраваць пытанні будаўніцтва і жыллёва-камунальнай гаспадаркі, трывала авалодала англійскай мовай, скончыла яшчэ Акадэмію кіравання. На працягу 7 апошніх гадоў Н. Качанава з'яўлялася главой аднаго з самых індустрыяльных гарадоў краіны, а зараз ёй прыйдзецца ўзваліць на свае плечы няпросты блок пытанняў развіцця сацыяльнай сферы ў маштабах усёй Беларусі.

# Аб самым надзённым

## МАШТАБНЫЯ ПЕРАСТАНОЎКІ ВА ЎРАДЗЕ БЕЛАРУСІ ПРАЙШЛІ ПАСЛЯ "ЧОРНАЙ ВАЛЮТНАЙ ПЯТНІЦЫ" ПАД НОВЫЯ ВЫБАРЫ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**З цягам часу і большасць з нас псіхалагічна прывыкне да новага курсу нацвалюты. Таксама грамадству, верагодна, трэба рыхтавацца да новага закручвання гаек, узмацнення адміністрацыйных мер і палачнай дысцыпліны, на што падштурхоўвае новы Дэкрэт № 5. Улады ў стане ўзмацніць і надалей адміністрацыйны кантроль за ўзроўнем цэн, барацьбу супраць розных спекулянтаў, "всякого рода жульё".**

У адрозненне ад простых беларусаў, вышэйшае кіраўніцтва краіны на каталіцкіх калядных канікулах не адпачывала. Беларускі лідар, напэўна, канчаткова расчараваўся ў сваіх старых кадрах і не стаў карыстацца правілам, што "коней на пераправе не мяняюць". Да чарговых прэзідэнцкіх выбараў ( як бычцам у лістападзе сёлета) засталося ўжо меней года і яшчэ да навагодніх святаў Беларусь абляцела навіна аб маштабных зменах на ўзроўні ўрада і адразу ў трох абласцях краіны, а таксама на шэрагу буйнейшых айчынных прадпрыемстваў. Кіруючы фінансава-эканамічны ўрадавы блок змянілі кардынальна, як-ніяк адразу адбыліся перастаноўкі 26 упраўленцаў высокага рангу.

Відавочна і тое, што кіраўнік дзяржавы скарыстаўся момантам і адправіў у адстаўку главаў урада і Нацбанка, трох віцэ-прэм'ераў, сярод іншых міністраў эканомікі і адукацыі, хоць апошняга ніяк нельга аднесці да ліку вінаватах у "валютнай паніцы" і фактычна прайшоўшай дэвальвацыі беларускага рубля. Як вядома, кіравацць беларускім урадам стаў вопытны Андрэй Кабякоў, ён на працягу 10 гадоў працаваў у ліку намеснікаў прэм'ер-міністра. Па меркаванні аўтарытэтных спецыялістаў, вельмі ўдалы выбар Паўла Калаўра на пасаду главы айчыннай банкаўскай сістэмы.

Ва ўрадзе ўдалося застацца вопытнаму перамоўшчыку з Крамлём і моцнаму гаспадарніку Уладзіміру Сямашка, але яго крыху панізілі, бо раней займаў больш важкую пасаду першага віцэ-прэм'ера ўрада. Такія вялікія перастаноўкі прайшлі неўзабаве пасля заслухоўвання на вышэйшым узроўні справаздачы ўрада РБ аб бягучай дзейнасці. На гэтым пасяджэнні прама гаварылася, што айчынная эканоміка нясе велізарныя страты ад складанай сітуацыі ў Расіі і абвалу расійскага рубля. Той жа былы прэм'ер М. Мясніковіч публічна казаў перад звальненнем, што мы страцілі летась з-за гэтага мінімум 700 млн. долараў.

Яшчэ да новай "харчовай вайны" з Расіяй наша краіна з-за прасеўшай расійскай валюты, хоць і павялічыла продаж суседзям харчавання, але таксама недалічылася за 3 месяцы яшчэ 160 млн. долараў. Простыя беларускія грамадзяне перад навагоднімі святамі пахваляваліся, пабегалі па абменных пунктах банкаў, у паніцы сталі раскупляць тавары, апасаючыся росту цэн. Як ні круці, але нашы ўлады вымушаны былі ў выніку збегу дрэнных абставін усё ж правесці дэвальвацыю беларускага рубля, хоць фактычна пра гэта маўчаць.

Толькі замежных грамадзян спачатку бянтэжаць лічбы ў абменніках, дзе курс пакупкі валют большы сумы, за якую яна прадаецца. Аднак касір потым возьме з іх яшчэ дадатковы 30-працэнтны збор пры набыцці долараў-еўра. Праўда, А. Лукашэнка падкрэсліў пры агучванні прозвішчаў новых упраўленцаў, што ніякімі "надзвычайнымі" мерамі такі крок не выкліканы. І сапраўды, пры створанай у нас жорсткай мадэлі вертыкалі ўлады ўсё павінна быць пад кантролем. Адзінае, што многія кадры цяпер усведамляюць, што найбольш праблем тоіць у сябе стан беларускай эканомікі, калі нашы дарагія тавары становяцца неканкурэнтназдольнымі нават на расійскім рынку.

Таксама пасля такіх вось маштабных перастановак кіруючых кадраў у Беларусі не варта чакаць ніякай змены сацыяльна-эканамічнага курсу. Нязменнай засталася ідэалагічная вертыкаль у выбарны год і без сумненняў народу даведуць, як трэба, у мазгі, што ад цяперашняга дабра не трэба адмаўляцца, а бягучыя цяжкасці часовыя, тым болей, што ў нас няма ніякіх войн і Майданам нават і не пахне. Аднак зразумела, усім нам сёлета будзе жыць няпроста. У 2015 годзе Беларусі належыць найбольей пад 4,8 млрд. долараў заплаціць па замежных даўгах. А вось айчынныя золатавалютныя рэзервы толькі каля 6 млрд. USD, новаму ўраду РБ прыйдзецца прасіць у першую чаргу зноў Маскву нам дапамагчы, даць новыя крэдыты.

З цягам часу і большасць з нас псіхалагічна прывыкне да новага курсу нацвалюты. Таксама грамадству, верагодна, трэба рыхтавацца да новага закручвання гаек, узмацнення адміністрацыйных мер і палачнай дысцыпліны, на што падштурхоўвае новы Дэкрэт № 5. Улады ў стане ўзмацніць і надалей адміністрацыйны кантроль за ўзроўнем цэн, барацьбу супраць розных спекулянтаў, "всякого рода жульё".

Перад гэтым па краіне ўжо прайшла, як вядома, серыя часовага закрыцця не толькі інтэрнэт-магазінаў, але і вядомых крам нават раскручаных брэндаў, не кажучы ўжо пра прыпыненне дзейнасці нелаяльных інтэрнэт-сайтаў. Па вялікім рахунку, сапраўды, у Беларусі нічога дзесяцігоддзямі не змяняецца, мы ганарымся сваёй міфічнай стабільнасцю, сваёй харчовай бяспекай (хоць цэны на ежу вышэйшыя, чым у суседзяў). Новы ўрад стане выконваць у першую чаргу адну з чарговых паступіўшых каманд заставіць усіх у год выбараў працаваць "как положено".

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Серада 07.01.15 | | | | Чацвер 08.01.15 | | | | Пятніца 09.01.15 | | | | Субота 10.01.15 | | | | Нд.11.01. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -12 | -12 | -10 | -12 | -11 | -10 | -8 | -6 | -4 | -2 | -2 | -2 | -3 | -1 | -3 | -6 | -4 | 0 | -1 |
| Ціск | 759 | 760 | 760 | 759 | 758 | 755 | 752 | 747 | 739 | 730 | 728 | 728 | 729 | 732 | 735 | 735 | 729 | 726 | 728 |
| Вільготнасць | 86 | 90 | 78 | 84 | 80 | 69 | 85 | 92 | 99 | 98 | 100 | 96 | 96 | 96 | 94 | 99 | 99 | 95 | 93 |
| Вецер м/сек | 1 Ю-В | 1 Ю | 2 Ю | 6 Ю | 7 Ю | 7 Ю | 7 Ю-З | 8 Ю-З | 9 Ю | 5 Ю-З | 7 З | 6 З | 3 С-З | 6 С-З | 5 С-З | 3 Ю-З | 9 Ю | 6 З | 7 З |

## Дзень за днём

**Масавыя перастаноўкі кіруючых кадраў адбыліся з-за праблем на айчынным фінансавым рынку. Летась беларускі рубль дэвальвіраваў на 25 % афіцыйна і на 50 % рэальна. ПерадНавагодні гандлёвы ажыятаж у Беларусі крыху дапамог падразгрузіць склады, але 9 нашых прадпрыемстваў мясамалпрама засталіся "неўязнымі" ў Расію. Па ўзроўню заробкаў краіна вярнулася ў сярэдзіну 2010 года. З 1 студзеня базавую велічыню ( для выплат дапамог, штрафаў) паднялі на 20 % да 180 тысяч рублёў. Да восені сёлета зробяць платнымі ўчасткі дарог Жлобін-Гомель і Мінск-Мікашэвічы. Беларусам дазволілі выпісваць у адным рэцэпце па 2 лякарствы.**

# Важнейшыя навіны свету

**Ізраіль.** Пасля нападзення палесцінскіх снайпераў армія краіны нанесла наземныя ўдары і правяла паветраную бамбардзіроўку сектара Газа з баевікамі руху ХАМАС.

**Інданезія.** За год краіна страціла трэці па ліку самалёт аэрабус А320-200 кампаніі AirAsia са 162 пасажырамі на борце, адзін з авіялайнераў збілі сепаратысты ў небе над Данбасам.

**Японія.** Лідара правячай Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сіндза Абе новы парламент 328 галасамі падтрымкі зноў перавыбраў прэм'ер-міністрам краіны.

**Украіна.** Рэзка негатыўную рэакцыю Крамля выклікалі адмена краінай свайго пазаблокавага статусу і намеры цеснага збліжэння з блокам НАТО ў ваеннай сферы.

**Расія.** Нязменны глава Беларусі А. Лукашэнка ў Маскве выказаў упэўненасць, што ён выйграе прэзідэнцкія выбары 2015 года, нават калі ўвесь свет будзе супраць гэтага.

**Літва.** Прэзідэнт краіны Даля Грыбаўскайтэ публічна адмовілася ад паездкі ў Маскву на святкаванне ў маі 70-годдзя Перамогі СССР над гітлераўскай Германіяй.

**Расія.** Глава Рассельгаснагляду РФ С. Данкверт заявіў, што ветэрынарныя службы Беларусі не прымаюць мер па ўхіленні прычын абмежаванняў паставак яе няякаснай прадукцыі.

**Італія.** З парома "Норман Атланцік", які загарэўся ў моры ля Грэцыі, удалося выратаваць 473 пасажыраў і членаў экіпажа, аднак яшчэ 10 чалавек загінулі падчас рэйсу.

**Перу.** Улады краіны эвакуіравалі цэлую вёску з цяжкадаступных мясцін Амазонкі пасля нападзення на яе ўзброенага лукамі і стрэламі племя абарыгенаў туземцаў Мачо-Піра.

**КНДР.** На тэрыторыі краіны нарэшце закончылася афіцыйная 3-гадовая жалоба па Кім Чэн Іру, які памёр ад сардэчнага прыступу, але культ ягонай асобы захаваўся так доўга.

**ЗША.** У абмежаваным пракаце ў 200 кінатэатрах краіны кінакампанія Soni Pictures усё ж паказала свой камедыйны фільм "Інтэрв'ю" пра выдуманае пакушэнне на лідара КНДР.

**Расія.** Нягледзячы на мора і порты, цэны на рыбу на Далёкім Усходзе рэзка выраслі, мяса ва Уладзівастоку з Кітая па даступных для людзей цэнах з прылаўкаў практычна знікла.

**Украіна.** Міжнародная плацежная сістэма Visa спыніла працу з расійскімі банкамі ў анексаваным Крыме, куды перасталі хадзіць украінскія паязды і аўтобусы.

**Іспанія.** Адной з першых іспанская кампанія Seat пакінула расійскі аўтарынак, бо ў Расіі продажы нават самых танных аўтамабіляў Lada знізіліся за год болей чым на 16 %.

**Германія.** Сусветнае антыдопінгавае агентства (WADA) пачала праверку фактаў з фільма тэлеканала 1 ARD пра масавыя (99 %) ужыванні допінгу расійскімі лёгкаатлетамі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Брэст.** Падчас першай рабочай паездкі новы прэм'ер-міністр Андрэй Кабякоў назваў адной з асноўных праблем Беларусі вымушаную няпоўную занятасць насельніцтва.

**Мінск.** Толькі наша ўнутраная эканамічная палітыка, як заявіў экс-глава Нацбанка РБ С. Багданкевіч, прывяла да празмернай залежнасці ад Расіі і да новага эканамічнага крызісу.

**Мінск.** Чыста "рытуальнымі" назваў перамены ва ўрадзе і ў шэрагу міністэрстваў Беларусі фінансавы аналітык Вадзім Іосуб, бо ніякай змены эканамічнага курсу не прадбачыцца.

**Светлагорск.** З цяжкімі траўмамі ног і хрыбта даставілі ў бальніцу начальніка ДАІ горада, на якога раніцай наляцеў на пешаходным пераездзе 41-гадовы кіроўца на "Мерседэсе".

**Мінск.** З-за закрыцця санслужбамі ў снежні 278 крам, як заявіла кіраўнік Асацыяцыі розничных сетак Т. Закжэўская, яны страцілі 200 млрд. рублёў, а 12 тыс. людзей – заробкі.

**Шклоў.** За ўдзел у махінацыях з закупкамі бычкоў і атрыманне хабару ў памеры 20 тысяч долараў былы начальнік райсельгасхарча атрымаў 14 гадоў турмы з канфіскацыяй маёмасці.

**Мінск.** У выхадны дзень падчас палявання на тэрыторыі вобласці атрымаў агнястрэльнае раненне і памёр на месцы здарэння суддзя Вярхоўнага суда Беларусі Віктар Ракіцкі.

**Мінск.** Таблічкай "Республика Белоруссия" для нашай дэдегацыі на саміце АДКБ, як абурыўся паэт У. Някляеў, Крэмль ясна абазначыў свае планы адносна Беларусі.

**Магілёў.** Пасля адстаўкі з пасады главы вобласці Пётр Руднік стаў хутка гендырэктарам буйнога праблемнага прадпрыемства "Магілёўхімвалакно", там завал з мадэрнізацыяй.

**Мінск.** Хоць і называе А. Лукашэнка палітыку РФ "бязмозглай", як заявіў палітолаг Ю. Дракахруст, але Крэмль не будзе рызыкаваць і спрабаваць "паставіць яго на месца".

**Пінск.** У цяжкім стане даставілі ў бальніцу 37-гадовага гараджаніна-рыбака, які заснуў ля вогнішча на беразе ракі Піна і атрымаў моцныя апёкі ног і 30 % плошчы цела.

**Мінск.** Папа Рымскі Францыск прыедзе ў Беларусь, як пацвердзіў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, калі будзе афіцыйнае запрашэнне ўлад і згода Праваслаўнай царквы.

**Бабруйск.** З кожным годам сітуацыя ў беларускім спорце, як заявіў адзін з лідараў ФК "Белшына" М. Букаткін, усё больш змрочная, клубы бяднеюць не толькі ў футболе.

**Мінск.** Адзін толькі беларускі тэлеканал "РТР-Беларусь", які кантралюе кампанія СТБ, не паказаў навагодняе віншаванне А. Лукашэнкі, замест яго далі выступленне Пуціна.

**Гродна.** На грані банкруцтва апынуўся ФК "Нёман", яго даўгі выраслі амаль да 20 мільярдаў рублёў, клуб не выплаціў прэміі ігракам яшчэ за сезон 2013 года, 18 з іх падалі ў суд.

# З 1 студзеня мінімальны стаж для пенсіі па ўзросце павялічаны




■ БелаПАН

**1 студзеня ўступіў у сілу ўказ прэзідэнта № 570 «Аб удасканаленні пенсійнага забеспячэння».**

**Дакумент прадугледжвае павелічэнне мінімальнага стажу працы для прызначэння пенсіі па ўзросце і пенсіі за выслугу гадоў з 10 да 15 гадоў працы з выплатай абавязковых страхавых узносаў у бюджэт дзяржаўнага пазабюджэтнага фонду сацыяльнай абароны насельніцтва.**

**Гэтая** мера не распаўсюджваецца на ўразлівыя катэгорыі грамадзян, для якіх фарміраванне працяглага стажу аб'ектыўна абцяжарана (шматдзетныя маці, маці інвалідаў з дзяцінства, інваліды з дзяцінства). Для іх захоўваецца мінімальны стаж працы 5 гадоў.

Для вылічэння пенсіі па ўзросце за кожны поўны год стажу работы звыш 35 гадоў у мужчын і 30 гадоў у жанчын прадугледжана павелічэнне пенсіі на 1% сярэднямесячнага заробку, але не менш чым на 0,7% сярэдняй зарплаты работнікаў у краіне, якая прымяняецца для карэкціроўкі фактычнага заробку пенсіянера.

З 1 студзеня 2016 года пенсіі асобам, якія дасягнулі пенсіённага ўзросту, павялічваюцца на 0,1%, 0,2%, 0,3%, 0,4%, 0,5% сярэднямесячнага заробку адпаведна за кожны год стажу работы звыш 40 гадоў па 45-ы год уключна ў мужчын і звыш 35 гадоў па 40-ы год уключна ў жанчын.

Лімітавая велічыня сярэдняй зарплаты, улічваемай пры вылічэнні пенсіі асобам, якія маюць стаж працы 36 гадоў і больш у мужчын і 31 год і больш у жанчын, павялічваецца да пяціразовай.

Прадугледжана таксама прызначэнне сацыяльнай пенсіі грамадзянам, не сфармавалася мінімальнага працоўнага стажу, неабходнага для прызначэння працоўнай пенсіі па ўзросце, не раней дасягнення ўзросту 65 гадоў для мужчын і 60 гадоў для жанчын. Пры гэтым дзеючыя нормы прызначэння сацыяльных пенсій захоўваюцца для сацыяльна неабароненых катэгорый грамадзян - дзяцей-інвалідаў, інвалідаў, у тым ліку інвалідаў з дзяцінства, дзяцей, якія страцілі карміцеля.

Пры вылічэнні працоўнай пенсіі ўводзіцца абавязковае ўжыванне дадзеных аб зарплаце, зафіксаваных у сістэме персаніфікаванага ўліку плацельшчыкаў і ўзносаў.

Павялічваецца лімітавая велічыня сярэдняй заработнай платы з чатырохкратнай да пяціразовай для выплаты абавязковых страхавых узносаў у дзяржаўны пазабюджэтны фонд сацыяльнай абароны насельніцтва для працадаўцаў і працоўчых грамадзян.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Новы глава вобласці Мікалай Шарстнёў пасля зацвярджэння на пазачарговай сесіі аблсавета дэпутатаў заявіў, што галоўнае цяпер захаваць працоўныя калектывы.

**Наваполацк.** Урад Беларусі зноў абавязаў высокадаходнае прадпрыемства ААТ "Нафтан" пералічыць дадаткова 215 млрд. рублёў у дзяржаўны фонд нацыянальнага развіцця.

**Віцебск.** На закрытым у 2013 годзе з-за ўспышкі АЧС свінакомплексе "Лучоса" правялі біяпробы новага пагалоўя, гатовы памяшканні для размяшчэння 8600 галоў свіней.

**Мёры.** Абласная гандлёвая інспекцыя падчас праверкі "Мясной лаўкі", закусачнай "Піцэрыя", магазіна "Дары пыроды" выявіла пратэрмінаваныя прадукты, пустыя полкі.

**Віцебск.** Калектыў ветакадэміі шакіравала забойства ў інтэрнаце 24-гадовага студэнта 3-га курса з Пінска яго маладзейшым суседам па пакоі ў ходзе сваркі пасля выпіўкі разам.

**Бешанковічы.** На тэрыторыі базы адпачынку "Крупеніна" ў адным з карпусоў адкрылі філіял аддзялення медыцынскай рэабілітацыі абласнога дыягнастычнага цэнтра.

**Докшыцы.** Упрыгожыў раённы цэнтр яшчэ адзін адкрыты тут новы сучасны і прыгожы будынак, у якім справіла наваселле мясцовае прадстаўніцтва "Белдзяржстраху".

**Паставы.** За кошт абласнога бюджэту ў раённым цэнтры і ў Гарадку да канца года пабудуюць два дамы сямейнага тыпу для шматдзетных сем'яў і дзяцей-сірот, якія засталіся без апекі бацькоў.

**Глыбокае.** У гарадскім Доме культуры прайшоў чарговы злёт маладых спецыялістаў, у 2014 годзе на працу ў раён прыехалі больш 170 дыпламаваных юнакоў і дзяўчат.

**Наваполацк.** У горадзе адкрыўся яшчэ адзін буйны гандлёвы цэнтр "Мелочи жизни" плошчай 2000 м2 з таварамі для дома, дачы, адпачынку, рыбалкі і для аўтааматараў.

**Браслаў.** На базе адпачынку "Дрывяты" Нацпарку "Браслаўскія азёры" адбыўся сумесны з латышамі ацэначны семінар па стварэнні міжнароднай прыродаахоўнай тэрыторыі.

**Віцебск.** У абласным цэнтры адкрыўся ўнікальны музей шакаладу, у якім адначасова могуць выстаўляцца да 100 розных твораў і карцін, намаляваных айчынным шакаладам.

**Дунілавічы.** П'яны мясцовы жыхар, каб "адпомсціць" работнікам сельскага савета за быццам празмерную ўвагу да сваёй персоны, ноччу спрабаваў падпаліць яго будынак.

**Віцебск.** Усе работнікі мясцовай бройлернай фабрыкі са стажам працы больш года атрымалі навагоднія падарункі, кожнаму па 7,5 кг прадуктаў уласнай вытворчасці.

**Віцебск.** На цырымоніі ўшанавання ігракоў і трэнераў ФК "Віцебск" глава горада Віктар Нікалайкін паабяцаў клубу максімальную падтрымку, каб замацавацца ў вышэйшай лізе.

*Служба інфармацыі "ВГ".*



■ Фадзей Шымуковіч, настаўнік-пенсіянер, краязнаўца, г. Дзісна.

# Культура

*“Толькі той можа горача любіць дабро, хто здольны ад усёй душы, непрымірыма ненавідзець зло”.*
*Ёган Шылер*

*“Будучыня трывожыць нас, а мінулае нас трымае. Вось чаму цяперашняе выслізгвае ад нас”.*
*Гюстаў Флобер*

**Я пачну гэты артыкул з апісання нашай бытавой культуры, хаця некаторыя чытачы і не згадзяцца са мной, што я завышаю значнасць бытавой культуры, яе ролю ў ацэнцы агульнанацыянальнай культуры.**

Тады паўстае пытанне, чаму ў іншых народаў, напрыклад, Заходняй Еўропы ці Амерыкі або той жа Японіі бытавой культуры ўдзяляюць столькі ўвагі, і яна знаходзіцца ў іх на даволі высокім узроўні, што нам дасягнуць хоць бы чаго падобнага на іх узровень вельмі праблематына. Калі аб нас, усходніх славянах, рускіх і беларусаў, кажуць, што мы лёгка навучальныя (у чым я сумняваюся), тады чаму ж мы да гэтага часу не абучыліся элементарным навыкам пастаяннай падтрымкі чысціні нашых пад’ездаў, двароў, сквераў, вуліц і іншых месц агульнага карыстання? Гэта набалеўшае пытанне і негатыўная рэальнасць нашага бытавога бескультур’я ўжо вельмі рэльефна апісаў расійскі палітычны грамадскі дзеяч у сваім артыкуле: **“Пара падумаць аб узнаўленні бытавой культуры ў Расіі”** (АіФ №37, 2007г). *“Абочыны дарог, берагоў рэк і ручаёў, ваколіцы прыгарадных пасёлкаў, сёл і самі населеныя пункты сустракаюць нас горамі смецця, разбітымі бетоннымі плітамі, паржавелай арматурай. Не здзіўляйцеся, калі побач з бакамі для смецця ўбачыце цэлыя зграі брадзячых сабак.*

*Аднак справа не толькі ў гразі і смецці. Хамаватасць і грубасць сталі амаль адметнай рысай расіян”.*

Заўважу, што раней лічылася, што рускі мат – спадчына татара-мангольскага іга, выражэнне насілля мангольскіх воінаў над рускімі жанчынамі. Аднак, вось што піша В.Касцікаў: *“Нядаўна археолагі, якія вялі раскопкі ў Наўгародскай вобласці, з гонарам паведамілі, што знойдзеныя берасцяныя граматы IX-X вв., на якіх можна прачытаць “узоры рускага мата”, даволі блізкія да сучаснага.*

Розніца ў тым, што раней мат быў мовай фурманаў, дворнікаў, катаржан, падгуляўшых прыказчыкаў, салдат. Сёння ненарматыўная лексіка стала агульнанароднай забавай. Зазірніце ў тыя месцы, дзе па вечарах моладзь сходзіцца папіць піўка, правесці “культурна” час. Па моўным наборы вы не адрозніце хлопцаў ад дзяўчат, цвярозага ад падпітага, а то і пад добрым аваднём, а не пад мухай. Не, яны не лаюцца, яны па-сяброўску выражаюць задавальненне ад сустрэчы. Па-іншаму яны не могуць. У іх не хапае набору слоў.

У пачатку гэтага года здароўе прымусіла правесці некаторы час на бальнічнай пасцелі. Побач ляжалі два мужчыны гадоў па 35-45. Механізатары дзвюх суседніх гаспадарак. Цікава і брыдка было слухаць іх задушэўную размову пра велічыню заробка, умовы працы, асабліва на рамонце тэхнікі, пра ўзаемаадносіны з кіраўніцтвам, адносіны ў сям’і. Нічога незвычайнага, калі не лічыць суцэльную мацяршчыну і брыдкаслоўе, якая пагалоўна перасыпала, так мовіць, аздабляла кожны сказ размовы. Гэта давала асобы “каларыт” іх размове, рабіла яе больш зразумелай і эмацыянальнай. Па другому яны не маглі, не ўмелі. Хоць пры размове са мной ніколі не прыбягалі да мата і брыдкаслоўя.

І далей аўтар піша: *“Па мату мы лёгка вызначаем суайчыннікаў у натоўпе турыстаў за мяжой”.* Не толькі па мату, але і вонкавай неахайнасці. Некаторыя чамусьці не любяць падстрыгацца, галіцца і чысціць абутак, не любяць мяняць кашулі. Мы не гаворым аб апусціўшыхся людзях-бамжах, алкаголіках, наркаманах, людзях з нездаровай псіхікай. На жаль, усё гэта адносіцца ў роўнай ступені і да звычайных людзей – з прапіскай, зарплатай, пастаянным месцам жыхарства. Гэта яны, звычайныя грамадзяне, пуляюць з акон электрычкі пустымі піўнымі бутэлькамі, кідаюць з аўтамашын акуркі, выстаўляюць каля тратуараў вынесеныя з дому пакеты са смеццем. Гаварыць аб гэтым непрыстойна, пісаць і таго больш, асабліва ў мясцовыя газеты. Можна папасці ў апалу, гэта ж нагавор, не патрыятычна.




Я ў Дзісне жыву побач з калгасным рынкам. Не праходзіць ні адной суботы, каб пасля поўдня не прыходзілася займацца ўборкай вуліцы ад розных упакаванняў і іншага смецця. Няхай дзеці цукерак – у рот, а фанцік – на вуліцу. Дык жа і дарослыя. Ідзе бабулька гадоў пад 65-70, банан з’ела, а шалупінне пад ногі. Кажу ёй: “Бабулька! Вы штосьці згубілі! Вярніцеся і забярыце!” Паглядзела, рукой махнула, дык гэта ж шалупінне, смецце. На маю заўвагу,

***...раней мат быў мовай фурманаў, дворнікаў, катаржан, падгуляўшых прыказчыкаў, салдат. Сёння ненарматыўная лексіка стала агульнанароднай забавай***

што для смецця не месца на вуліцы – ноль увагі. Мацюкнулася і пайшла прэч.

А калектыўныя папойкі віна і піва ў парках, скверах, з матамі і другімі жаргонамі, хіба гэта не дэградацыя нашай моладзі? Ці зможа такая моладзь, надзея нацыі, паражоная піўным алкагалізмам (гэты тэрмін існуе ў наркалогіі) пабудаваць разумную, дэмакратычную, квітнеючую Беларусь? Акцёр Дзмітра Нячаеў сказаў: *“…Я задаюся пытаннем: калі былда, якое п’е піва з пластыкавых стаканчыкаў пачне несці адказнасць адзін за аднаго, за тых, хто родзіцца ад гэтых спантанных злучак, нападоб’і жывёльных? Калі я думаю аб гэтым, мне становіцца не па сабе.”* А ці многія думаюць так, як Нячаеў? А калі і думаюць, то што яны прадпрымаюць, а тым больш, што ў іх сілах прадпрыняць? Калі нават раённая газета ад падобных артыкулаў адмахваецца, як адназойлівых мух.

Прадоўжу цытаваць В. Касцікава. *“Адкрыта кажучы, я не ведаю, што для нас сёння цяжэй і неабходней: авалодаць азамі еўрапейскай дэмакратыі ці навучыцца не пляваць на тратуары і пісаць словы з трох і пяці літар на агароджах. Задача гэта не з простых. Больш таго – яна складаней, чым здаецца на першы погляд. Таму што ў нас бытавая непрыстойнасць і бытавое разгільдзяйства – “прывілеі” не толькі “нізоў”. Не выключэнне і нашы багаценькія пасажыры раскошных “Мазерацці”, якія выкідваюць бляшанкі з-пад “Кока-колы” ў акно, уладальнікі загарадных пампезных асабнякоў. На сваім участку ў іх “дызайн”, англійскія ружы, мармурныя дарожкі, агароджы з каванымі завітушкамі, маднейшыя жонкі і любоўніцы. А за агароджай – разбітая дарога, гразь і паламаныя ліхтары. Таму што за межамі іх асабістага маёнтка – ужо быццам і не яго, а зусім чужая краіна.”*

Калі ў 1921 годзе ў Заходняй Беларусі ўсталявалася польская ўлада, то польскі ўрад, патрэбна ў гэтым аддаць яму перавагу, і па радыё, і ў газетах, і непасрэдна на месцы вучылі культуры землеўладання і агульнай культуры сялян заходніх беларускіх зямель, так называемых крэсаў усходніх па прынцыпу краін Заходняй Еўропы. І не толькі прызывам, а прымушалі нашых мужыкоў купляць штучныя мінеральныя ўгнаенні для павышэння ўраджайнасці. Памятаю, мой бацька казаў, што на конях ездзілі на станцыю ў Зябкі і там куплялі “попел”, так тады называлі суперфасфат. І калі хто сеяў на пуд насення пуд попелу, то ўраджайнасць была нашмат вышэйшая.



## Глыбоцкія аўтобусы будуць заходзіць на аўтавакзал «Цэнтральны» ў Мінску

**Новыя змены ў раскладзе пачнуць дзейнічаць ужо з 15 студзеня.**

**■ Зміцер Лупач**

Усе аўтобусы, якія ідуць з глыбоцкага аўтапарка, будуць заходзіць на аўтавакзал «Цэнтральны» ў Мінску.

Расклад руху аўтобуса, які выходзіць з Глыбокага ў 5.30, не змяняецца. На Глыбокае ён будзе адпраўляцца ў 12.50 з аўтавакзала «Усходні», з аўтавакзала «Цэнтральны» – у 13.10.

Новыя змены закрануць расклад руху аўтобуса, які адпраўляўся з Глыбокага ў 8 гадзін раніцы. Зараз ён будзе выходзіць у 7.30. З Мінска гэты аўтобус будзе адпраўляцца ў 11.30 (аўтавакзал «Усходні»), 11.50 (аўтавакзал «Цэнтральны») ва ўсе дні, акрамя нядзелі. У нядзелю адпраўленне з аўтавакзала «Усходні» ў 12 гадзін, ад аўтавакзала «Цэнтральны» - у 12.20.

Не зьмяняецца расклад руху аўтобуса, які адпраўляецца з Глыбокага ў 14.20. Адпраўленне з Мінска ў 19.10 (аўтавакзал «Усходні»), 19.30 (аўтавакзал «Цэнтральны»).

Што ж, змены вельмі добрыя. Застаецца толькі парадавацца, што кіраўнікі, ад якіх гэта залежала, нарэшце прыслухаліся да патрэбаў людзей.

Займець бы Глыбокаму сучасны аўтавакзал, і быў бы ў нас цалкам еўрапейскі горад.

# і палітыка

За бытавую неахайнасць, адсутнасць туалетаў, за бур'ян на межах і прыдарожнай паласе штрафавалі. Амаль паўсюдна ў пачатку 20-х гадоў, ды ў глухіх месцах, усе дарослыя і дзеці адпраўлялі свае патрэбы за стадолай, пуняй ці іншай прыбудовай, як гэта было раней пры цару-бацюшку, калі іх за гэта ніхто не караў і не штрафаваў. І хоць польскія ўлады за такую неахайнасць штрафавалі, аднак у свядомасці людзей ніяк не магло адкласціся патрабаванне ў тым, што бытавая культура павінна цвёрдым поступам уваходзіць у іх быт. Адсутнасць простых туалетаў, тыпу шпаковен, часта прыводзіла да анекдатычных выпадкаў. І ў нашай мясцовасці так за 18 год польскай улады ў многіх так і не з'явіліся пастаянныя туалеты, а патрэбу адпраўлялі на вольным паветры.

Вось які анекдатычны выпадак здарыўся з гаспадаром, які ігнараваў туалет. Прыладзіўся ён зрабіць гэту справу, а тут як на той грэх, адкуль ні вазьміся, здаравенная свіння, у якой была цвёрдая звычка "ласавацца" рэшткамі гэтага працэсу. Не дачакаўшыся фіналу працэса, яна рушыла хутчэй падабраць "ласунак". Гаспадар адчуў, што свіння яму перашкаджае закончыць справу, ён сваім кіем ударыў яе па баку з разлікам, што яна паверне назад. Але гэтае бязмозглае стварэнне ад удара рэзка рушыла наперад, у выніку чаго яе галава аказалася паміж ног гаспадара, а знізу аказаліся спушчаныя гаспадарскія штаны ніжэй калень. Атрымаўся нейкі жывы хамут, які свіння сама добраахвотна надзела сабе на шыю. Са страху свіння з піскам і візгам кінулася наперад, наўцёкі. Гаспадар нібы вершнік у яе на спіне. Нейкім чынам свіння са двара рванула на вуліцу. Відовішча было экзатычнае. Гаспадар на хаду ніяк не мог пазбавіцца статуса вершніка, пакуль на дапамогу не прыйшлі члены сям'і і суседзі. Калі свіння затрымалася, каб змяніць накірунак руху, вершніку нейкім чынам удалося пазбавіцца сваёй ролі, неяк выкуліўся з сінякамі і драпінамі на твары і руках.

Чытач мае права мне не паверыць і абвінаваціць мяне ў фантазіі. Толькі гэта ніякая не фантазія. Я мог бы назваць і вёску, і гаспадара, але не магу гэта зрабіць з пункту гледжання эстэтыкі, хоць ужо няма ні той вёскі, ні яе жыхароў, якія раз'ехаліся па ўсяму былому Саюзу.

Не магу прапусціць успаміны пралетарскага пісьменніка Максіма Горкага. *"Мне отвратительно памятен такой факт: в 19 году, в Петербурге, был съезд "деревенской бедноты". Из северных губерний России явилось несколько тысяч крестьян, и сотни их были помещены в Зимнем Дворце Романовых. Когда съезд кончился, и эти люди уехали, то оказалось, что они не только все ванны дворца, но и огромное количество ценнейших сербских, саксонских и восточных ваз загадили, употребляя их в качестве ночных горшков. Это было сделано не по вине нужды, – уборные дворца оказались в порядке, водопровод действовал. Нет, это хулиганство было выражением желания испортить, опорочить красивые вещи. За время двух революций и войны я сотни раз наблюдал это тёмное, мстительное стремление людей ломать, искажать, осмеивать, порочить прекрасное."*

Але гэта толькі частка праўды, выказаная Горкім. А хіба ў наш час рэзка змянілася становішча з туалетамі? У амаль любы туалет грамадскага карыстання зайсці немагчыма, таму што не толькі хуліганы, а многім з нас карціць, як кажуць у народзе, зрабіць так, каб другому было непрыемна не толькі патрэбу справіць, але і зайсці туды. Аб магчымасці памыць рукі, скарыстацца ручніком, туалетнай паперай, я маўчу.

Летам 1939 года мне, 4-гадоваму хлапчу, запомніўся такі выпадак. У вёску з праверкай на ровары прыехаў польскі паліцыянт Далецкі з Мікалаеўскай гміны. У першую чаргу мяне зацікавіў ровар, які я так блізка мог пабачыць упершыню. Але і дзеянні гэтага чалавека далікатнага, у прыгожай вайсковай форме, мяне зацікавілі не менш. Спачатку ён праверыў ці маецца на вуглу хаты шыльда, на якой напісана: "Барковшчызна. Шымуковіч Ваўшынец Сцепанавіч", такая ж шыльда павінна была прымацавацца да калёс, калі бацька ехаў у Дзісну. Ззаду да калёс павінна было прымацавацца вядзерца, савочак і венік, на той выпадак, калі конь на вуліцы аправіцца, то гаспадар павінен быў спыніцца, усё гэта пры дапамозе савочка і венічка сабраць у вядзёрка, а потым прадоўжыць рух.

Была на вуглу і таблічка з малюнкам вядра і багра. На выпадак пажару бацька павінен быў з'явіцца на пажар без ніякай каманды з гэтым інструментам. Наяўнасць яго таксама праверыў паліцыянт. Асаблівая ўвага была ўдзелена "устэмпу" (туалету) і бур'яну на межах і дарожных абочынах. Не знайшоўшы парушэнняў, паліцыянт ветліва адкланяўся.

А вось роднага брата бацькі, дзядзьку Івана за адсутнасць "устэмпа" аштрафавалі. Хоць дзядзька на чым свет стаіць кляў польскую ўладу, але вымушаны быў у Мікалаеўскую гміну аднесці штраф, і немалы, і пабудаваць прымітыўны "устэмп".

Чытач мае права запытаць у мяне, а ў чым жа аўтар бачыць сувязь культуры і палітыкі? А самая што ні ёсць прамая. Я ўжо больш 10 гадоў старэйшына сямі вуліц г. Дзісна. А таму кожны год, асабліва пачынаючы з вясны, даводзіцца весці вайну з шмтвлікімі ўладальнікамі асабістых дамоў. Па праўдзе, я ў некаторай ступені зайздрошчу польскаму паліцыянту Далецкаму, які мог у далікатнай форме прымусіць любога гаспадара выконваць свае абавязкі па выкананні правіл бытавой культуры, а ў выпадку разгільдзяйства: "проша пану аднесці штраф до гміны". У мяне адзінае права – права выхавання.

З іншага боку, паколькі фінансавае становішча дзяржавы вельмі складанае і разлічваць на тое, што дзяржава будзе нас не толькі карміць, але і пакрываць нашы страты, то трэба пераходзіць на самаакупнасць. А як гэта зрабіць, калі чалавек і не хоча, і не прывык да нармальнай працы?

> ***...наша ідэалогія займаецца не выхаваннем чалавека, не фарміраваннем асобы, а выконваюць ролю хлопчыкаў і дзяўчат на пабягушках у больш высокага начальства***

Калі мы з-за разгільдзяйства і алкагалізацыі пры перарасходзе кармоў не можам на працягу дваццаці гадоў павялічыць прывагі на 100-150 грамаў, або на 4-6 грамаў за год, ці не можам надаіць ад каровы ў сярэднім больш за 4000 літраў за год.

Асноўная прычына – вельмі нізкая бытавая культура людзей. А наша ідэалогія займаецца не выхаваннем чалавека, не фарміраваннем асобы, а выконваюць ролю хлопчыкаў і дзяўчат на пабягушках у больш высокага начальства.



Нашы школьнікі прыбіраюць берагі вадаёмаў

## МНС інфармуе

**на 13.01.2015 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў –29;
Гібель людзей – 7, з іх дзяцей няма;
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 3;
Гібель людзей – 1, з іх дзяцей няма;
Урон – 53 млн. руб.

# Бяспека дзяцей – прыярытэт для дарослых!

**З 14 па 23 студзеня 2015 г. на тэрыторыі нашай краіны праводзілася прафілактычная акцыя па папярэджанні дорожна-транспартных здарэнняў з удзелам непаўналетніх.**

■ **Цінковіч М.А.**, *старэйшы інспектар ДПС Глыбоцкага РАУС, капітан міліцыі*



Найвышэйшай каштоўнасцю дзяржавы з'яўляецца чалавечае жыццё. І самае вялікае гора для бацькоў – гібель дзіцяці!

Паважаныя вадзіцелі! Просім Вас паклапаціцца прадзяцей і выкарыстоўваць пры перавозцы дзяцей пасіўныя сродкі бяспекі: дзіцячыя ўтрымлівальныя крэслы, рамяні бяспекі - яны выратуюць ім жыццё і паменшаць пры ўчыненні ДТЗ цяжар наступстваў.

У ходзе мерапрыемства супрацоўнікі аддзела ДАІ правядуць выступы ва ўстановах адукацыі, у працоўных калектывах раёна, на інфармацыйных стэндах прадпрыемстваў і арганізацый будуць размешчаны ўлёткі з інфармацыяй прафілактычнай накіраванасці. У гэтыя дні будзе ўзмоцнены нагляд за дарожным рухам у месцах найбольшай верагоднасці ўчынення ДТЗ з удзелам дзяцей.

Паважаныя дарослыя! Клопат аб дзецях – наша агульная справа. Безнагляднасць дзяцей, гульні і свавольствы на дарогах, раптоўнае з'яўленне паблізу транспарту, абыякавае стаўленне да гэтага дарослых – вось асноўныя прычыны няшчасных выпадкаў з дзецьмі на дарогах. Мы звяртаемся да Вас з просьбай: убачыўшы дзяцей, якія гуляюць на праезнай частцы дарогі ці каля яе, не заставайцеся абыякавымі, зрабіце ім заўвагу, паспрабуйце прыняць меры, каб ізаляваць іх ад патоку транспарту. Прывучайце сваіх дзяцей да дарожнай дысцыпліны, выхоўвайце ў іх пачуццё асцярогі пры пераходзе праезнай часткі, штодня нагадвайце ім аб захаванні правіл дарожнага руху, самі служыце прыкладам сваім дзецям!

Паважаныя бацькі! На вуліцы, будзьце асабліва асцярожныя з малымі-дашкольнікамі. Не пакідайце іх без нагляду. Памятаеце, што нават адзін няправільны крок дзіцяці на праезнай частцы дарогі, дзе магчымы рух транспарту, можа прывесці да няшчасця.

Паважаныя вадзіцелі! Вы абавязаны быць вельмі асцярожнымі і ўважлівымі пры праездзе міма дзіцячых пляцовак, прыпынкаў грамадскага транспарту, дзіцячых садкоў і школ, пры праездзе пешаходных пераходаў.

Паважаныя вадзіцелі! Нагадваем, што з 16 студзеня гэтага года пры перавозцы дзяцей да 12 гадоў абавязковае выкарыстанне пасіўных сродкаў бяспекі: дзіцячых ўтрымлівальных крэслаў, а таксама зімовых шын.

## Адпачыць, як у апошні раз

# Паляванне:

## Калі яны бачаць звера, адчуваюць азарт і забываюць пра элементарныя правілы

**Трагедыя адбылася ў Уздзенскім раёне Мінскай вобласці, калі чацвёра мужчын адправіліся паляваць на зайца.**

■ **Валерый Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету*

Палявалі пры дапамозе гладкаствольнай стрэльбы з шротавымі патронамі. У аднаго з паляўнічых выпадкова стрэліў калега па паляванні, дырэктар аднаго з прадпрыемстваў ва Уздзе. Надвор'е было добрае, усе паляўнічыя сабраліся бывалыя, падвяла «стральба па няясна бачнай цэлі». Гэта прычына 90 адсоткаў трагічных выпадкаў на паляванні.

Калі браць статыстыку, у асноўным няшчасныя выпадкі адбываюцца на калектыўных загонных паляваннях, калі ўдзельнічае вялікая колькасць людзей. Не пераканаўшыся, што перад ім звер, паляўнічы страляе на шум, шоргат, а там аказваецца чалавек. Або рыкашэт адбываецца – і таксама атрымліваецца раненне. Здавалася б, гэта аксіёма: не бачыш – не страляй. Але тым не менш, у нас да гэтага часу такое адбываецца. Калі паляўнічыя бачаць звера, яны адчуваюць такі азарт, што забываюць пра элементарныя правілы.

У 2013 годзе ў паляўнічых гаспадарках краіны зафіксавана 8 няшчасных выпадкаў, з іх 3 – са смяротным зыходам. У 2014 годзе стралялі ў людзей на паляванні 5 разоў - і зноў 3 чалавекі загінулі. Акрамя трагедыі ў Уздзенскім раёне, ахвярамі свайго хобі сталі яшчэ двое мужчын з Гродзенскай і Гомельскай абласцей. У Гродзенскай вобласці няшчасны выпадак адбыўся таксама напярэдадні Новага года – 28 снежня. Паляўнічыя стралялі па лісе, куля зрыкашэціла ад зямлі і трапіла 30-гадоваму мужчыну ў вобласць шыі. Давезці да бальніцы мужчыну не паспелі. У Гомельскай вобласці інцыдэнт здарыўся ў пачатку снежня. У паляванні ўдзельнічалі больш за 10 чалавек. Пацярпелы непрыкметна абагнаў падазраванага. Калі адзін з іх наперадзе пачуў шоргат у кустах, падумаў, што там дзік, і стрэліў. Напарнік памёр яшчэ да прыезду хуткай дапамогі.

Перад правядзеннем загоннага палявання кожны паляўнічы абавязаны прайсці інструктаж па тэхніцы бяспекі і распісацца за гэта. І подпісы ў большасці выпадкаў стаяць, што, на жаль, не выключае няшчасных выпадкаў.

Акрамя стральбы па няясна бачнай цэлі паляўнічыя забываюць разрадзіць зброю перад тым, як напрыклад, сесці ў машыну. У 2013 годзе быў такі выпадак: сабака скокнуў у аўто на зараджаную зброю і выпадкова націснуў на курок. Паляўнічы атрымаў раненне лёгкай ступені цяжкасці. Некаторыя атрымліваюць траўмы пры падзенні зараджанай стрэльбы.

Так, пажылы мужчына з Лунінецкага раёна перад паляваннем вырашыў праверыць стрэльбу, якой даўно не карыстаўся. Зарадзіў патрон у правы ствол, адставіў дубальтоўку ў бок і адышоў у хлеў. У выніку падзення зброі адбыўся самаадвольны стрэл і карцеч трапіла ў ногі паляўнічага. Мужчыну шпіталізавалі ў хірургічнае аддзяленне.

Калі паляванне ідзе на качак з маламерных судоў, зброю таксама неабходна абавязкова разраджаць – перад пасадкай у лодку і перад высадкай з яе.



# Рыбалка:

## Спадзяюцца на рускае «авось», маўляў, авось пранясе, а ў выніку гінуць

**Першыя дні Новага года ледзь не скончыліся трагедыяй для пяці рыбакоў.**

■ **Аляксей Протас,** *начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

Трэцяга студзеня мужчыны рухаліся да берага возера каля вёскі Рабунь, але пачулі пад сабой трэск лёду. Апынуўшыся ў экстрымальнай сітуацыі, рыбакі набралі «101». Пакуль ехалі ратавальнікі, дыспетчар падказваў рыбакам, як дзейнічаць, каб не праваліцца пад лёд. Выкарыстоўваючы ратавальныя дошкі і вяроўкі, работнікі МНС даставілі мужчын на бераг. Усе яны апынуліся жыхарамі Мінска.

Часта падобныя гісторыі не сканчаюцца «хэпі эндам». Па дадзеных Беларускага рэспубліканскага таварыства выратавання на водах, за 2014 год у краіне загінулі 86 рыбакоў. Рыбная лоўля з лодкі мела трагічныя наступствы для 30 чалавек, з берага – для 23, падчас падлёднай рыбалкі сышлі пад ваду 33 чалавекі, 6 з іх у гэты момант былі п'яныя.

Амаль усе няшчасныя выпадкі на лёдзе – вынік няправільных паводзін: «Рыбная лоўля, выхад на тонкі лёд», «зноў выхад на тонкі лёд, ужыванне алкаголю», «яшчэ адзін загінулы, ужыванне алкаголю».

Правальваюцца пад лёд часцей за ўсё рыбакі бывалыя, ва ўзросце 50-60 гадоў. Як паказвае практыка, досвед не прадухіляе няшчасных выпадкаў.

**Як яны разважаюць?**

Раз у тыя гады праносіла, ніякіх праблем не было, значыць, і тут пранясе. Ёсць такая надзея на рускае «авось», а ў выніку або гінуць, або даводзіцца вадалазам, рызыкуючы жыццём, самім правальвацца пад лёд і спрабаваць іх ратаваць. Аднаго вось на днях з вады выцягнулі, ён потым чатыры гадзіны адыходзіў, гаварыць не мог, ці то стрэс, ці то змерз, ледзь адкалыхалі.

Выходзіць на лёд можна, калі яго таўшчыня больш за 7 см – гэта «залатое правіла». Асноўная бяда ў тым, што ў Беларусі вельмі часта назіраюцца рэзкія перапады тэмпературы. Спачатку ўдараюць маразы, а потым рэзка наступаюць адлігі, з прычыны чаго структура лёду моцна змяняецца, узнікаюць пралысіны. Гэта таксама распаўсюджаная прычына няшчасных выпадкаў.

Так, у снежні мінулага года ў Браслаўскім раёне на возеры Струста загінуў 55-гадовы мужчына, які спрабаваў праехаць па лёдзе на ровары. У выніку трапіў у прамыіну і разам з роварам так у возеры і застаўся. Яшчэ адзін рыбак у снежні праносіў праз раку Котра ў Гродзенскім раёне тэлевізар. Быў нецвярозы. Таксама праваліўся пад лёд разам з тэлевізарам. А іншага таварыша, які ехаў па лёдзе на мапедзе, удалося выратаваць.

Заўсёды ратавальнікі просяць: калі ўжо ідзяце на рыбалку, майце з сабой сродкі самавыратавання, як мінімум камізэльку. У новым праекце правілаў аховы жыцця людзей на водах, дарэчы, прадугледжана патрабаванне абавязкова насіць выратавальную камізэльку ўсім, хто выходзіць на ваду. Акрамя таго, важна мець з сабой на рыбалцы так званыя «лядовыя загваздкі» з завостранымі наканечнікамі, злучаныя паміж сабой вяроўкай. Вешаеш сабе такое прыстасаванне на шыю (як у дзяцінстве рукавіцы праз куртку дзецям працягвалі) - і, калі ўжо праваліўся, з дапамогай гэтых загваздак можна лёгка выцягнуць сябе на лёд. Яшчэ некалькі найважнейшых правілаў бяспечнай рыбалкі:

■ брудны, бура-шэры лёд – звычайна ўжо падталы і нетрывалы, пры тэмпературы ў 0° С, захоўваецца на працягу трох дзён, трываласць лёду зніжаецца на 25%;

■ лёд лічыцца нетрывалым каля вусця рэк і прытокаў, паблізу месц, дзе б'юць ключы, або скідваюцца сцёкавыя воды, а таксама дрэў, кустоў і чароту;

■ не варта правяраць трываласць лёду, скачучы на ім або стукаючы ў ім нагой, пажадана гэта рабіць металічным штыром або палкай;

■ нельга свідраваць дзесяць лунак побач і збірацца на лёдзе вялікімі групамі;

■ ні ў якім разе нельга пакідаць без нагляду малалетніх.

Пры тэмпературы вады 2-3°С знаходжанне ў ёй больш за 20 хвілін становіцца смяротным, пры тэмпературы ад 0 да -2°С смяротны зыход можа наступіць і пасля 10 хвілін. Здараецца, беларусы рызыкуюць жыццём на лёдзе зусім не ў пошуках рыбы, а за «ўловам» удалых фотаздымкаў. Так, у канцы лістапада ў Полацку фатограф ледзь не загінуў, праваліўшыся пад лёд на рацэ Заходняя Дзвіна. Выратавацца маладому чалавеку дапамог трэнер аднаго з Віцебскіх спартыўных цэнтраў, які своечасова падаспеў на дапамогу. Мужчына схапіў складную драбіну і, падабраўшыся да маладога чалавека, выцягнуў яго спачатку на лёд, а затым і на бераг.

За мінулы год на лёдзе загінулі 5 непаўналетніх дзяцей. Зусім свежы факт: у Кобрыне пад лёд праваліўся 10-гадовы школьнік («выйшаў на вуліцу пагуляць»). Вадалазы, што прыбылі на месца здарэння, дасталі з вады цела загінулага дзіцяці.

# Не станьце міжвольным парушальнікам паляўнічага заканадаўства

**Паляванне для многіх грамадзян – гэта не толькі спосаб пражытка, здабыча дзічыны, хутчэй за ўсё, гэта лад жыцця, памяняць які вельмі цяжка. Калі такі чалавек не адправіцца на паляванне, ён проста пачынае «хварэць».**

■ **Валерый Катовіч,** *дзяржаўны інспектар Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету*

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету нагадвае, што працягваецца паляванне на зайца-русака, зайца-беляка, вавёрку, куніцу каменную, куніцу лясную, норку амерыканскую, андатру і тхара лясного ружэйным і безружэйным спосабамі па апошнюю нядзелю студзеня 2015 года, таксама да 31 сакавіка 2015 года дазволена здабыча норкі амерыканскай і андатры безружэйным спосабам.

Правіламі вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, у рэдакцыі Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь №551 ад 2013.12.05, падоўжана загоннае паляванне на дзіка з 1 па 31 студзеня ў светлы час сутак з выкарыстаннем паляўнічых сабак, якія маюць палявы дыплом па дзіку, а таксама з засады і з падыходу – на працягу сутак і з 1 лютага па 31 сакавіка на працягу сутак ружэйным спосабам з засады, з падыходу.

Супрацоўнікі інспекцыі пераканаўча просяць паляўнічых уважліва вывучыць і выконваць усе патрабаванні, выкладзеныя ў Правілах вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, каб не стаць міжвольным іх парушальнікам, строга выконваць тэхніку бяспекі на паляванні, этыку паляўнічага.

За 2014 год супрацоўнікамі інспекцыі выяўлена 207 выпадкаў парушэння прыродаахоўнага заканадаўства, з якіх 54 выпадкі за парушэнні Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання, у тым ліку 4 з прыкметамі злачынства, за якія прадугледжвае пакаранне згодна з арт.282 Крымінальнага Кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Для прыкладу, адзін з апошніх выпадкаў, грамадзянінам С. 13 снежня 2014 года каля 11 гадзін у паляўнічых угоддзях СТАА «Возера» Пастаўскага раёна была незаконна здабыта адна асобіна казулі еўрапейскай, па гэтым факце ўзбуджана крымінальная справа па ч.2 арт.282 КК Рэспублікі Беларусь.

Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь дапоўнены арт.282-1, у якім прадугледжана крымінальная адказнасць за перамяшчэнне (транспарціроўку) або раздзелку дзікіх жывёл, у тым ліку іх частак. Пры гэтым абавязковай умовай з'яўляецца прычыненне шкоды ў буйным памеры (больш за 100 базавых велічыняў), альбо паўторнасць парушэння, альбо прыналежнасць жывёлы да ахоўных відаў, альбо ўчыненне дзеянняў на асабліва ахоўных або радыёактыўна забруджаных тэрыторыях. Так, напрыклад, транспарціроўка або разделка мяса капытных (казулі, дзіка, аленя, лася) зараз з'яўляецца падставай для распачынання крымінальнай справы.

Пры выяўленні параненай, траўміраванай, хворай або загінулай жывёлы нармаваных відаў, уключаных у Чырвоную кнігу Рэспублікі Беларусь, асоба, якая выявіла такую жывёлу, павінна паведаміць карыстальніку паляўнічых угоддзяў або ў аператыўна-дзяжурную службу тэрытарыяльнага органа ўнутраных спраў, або ў дзяжурную службу раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях.

**Аб усіх выпадках парушэння прыродаахоўнага заканадаўства можна паведаміць па тэлефоне даверу (02156) 2-86-70 кругласутачна, маб. МТС 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49, 645-66-78.**

